**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 21 (842) 26 траўня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае







Самыя актыўныя ў Глыбокім – байкеры.

*Фота Ул. Скрабатуна.*





## Архіепіскап Феадосій асвяціў памятны знак у гонар выбітнага дзеяча Праваслаўнай Царквы



Архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій асвяціў 24 траўня 2016 года памятны знак у гонар выбітнага дзеяча Рускай Праваслаўнай Царквы протапрасвітара Віталія Баравога ў мястэчку Станцыя Параф'янава (Докшыцкі раён). Віталій Баравы нарадзіўся сто год таму ў засценку Несцераўка каля Параф'янава. У часы камуністычнага рэжыму ён быў адным з найбольшых маральных і інтэлектуальных аўтарытэтаў у Рускай Праваслаўнай Царкве. Айцец Віталій заўсёды памятаў пра свае беларускія карані і шчыра спагадаў нацыянальнаму адраджэнню.

***Тэкст і фота Кастуся Шыталя*.**















## У Пастаўскім раёне п'яны кіроўца да смерці збіў школьніка

Увечары 23 траўня 37-гадовы кіроўца Chrysler Voyager, быўшы ў стане алкагольнага ап'янення, на аўтадарозе Паставы - Варапаева - Мярэцкія здзейсніў наезд на 16-гадовага вучня мясцовай школы, які ішоў у спадарожным кірунку.

У выніку ДТЗ школьнік, які вёў ровар па краі праезнай часткі і быў пазначаны флікерамі, атрымаў цяжкія траўмы і памёр у рэанімацыі.

Кіроўца затрыманы. Узбуджана крымінальная справа за парушэнне правіл дарожнага руху асобай, якая кіруе транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

AUTO.TUT.BY

ISSN 2077-8023



## Віцебскі раён

# Ніхто не думаў пра людзей

■ Станіслаў Раманчук.

**На працягу цэлай пяцігодкі эканамічныя цяжкасці ў краіне толькі павялічваліся, у выніку чаго ўжо тысячы суайчыннікаў апынуліся ў адчайным становішчы.**

Адными з першых у абласным цэнтры адчулі гэта на сабе сотні былых рабочых і служачых з некалі квітнеўшай панчошна-трыкатажнай фабрыкі “КІМ”. Тыя, хто адпрацаваў на ёй працяглы час, увогуле аказаліся моцна пакрыўджанымі. Адзін з былых флагманаў лёгкай прамысловасці паступова ішоў да поўнага краху, адных даўгоў у яго накапілася на 172 млрд. рублёў. У выніку фабрыка не плаціла падаткі і абавязковыя плацяжы ў Пенсійны фонд, з-за чаго ў працаваўшых на ёй швачак некалькі гадоў дзейнасці не будуць залічаны ў неабходны стаж для налічэння пенсій. Летась летам ААТ “КІМ” афіцыйна прызналі банкрутам, але дагэтуль гаротнае прадпрыемства яшчэ не разлічылася з ніводным з амаль 800 былых супрацоўнікаў па даўгах па заробатнай плаце. Між тым, фабрыка павінна выплаціць людзям кругленькую суму ў памеры 6,5 млрд. рублёў. Былыя рабочыя ў адчаі чакаюць выплат заробленых грошай ужо амаль два гады, але за гэты перыяд нічога не атрымаў. Шэраг сваіх шматлікіх аб’ектаў прадпрыемства-банкрут змагло прадаць, але неабходна было пагасіць у першую чаргу шматлікія іншыя запазычанасці па крэдытах, падатках, утрымліваць свае інтэрнаты, весці ахову яшчэ 54 аб’ектаў нерухомасці. А вось гэтыя актывы фабрыка пакуль прадаць не ў стане, паколькі няма іх тэхнічных пашпартоў і іншых дакументаў, а грошай (яшчэ 1,5 млрд.) для правядзення тэхінвентарызацыі ў яе таксама няма.

## Мёрскі раён

# Каб памяталі нашчадкі

■ Чэслаў Якубовіч.

**Любы народ, які пазбаўлены гістарычнай памяці, не мае перспектывы і не можа быць шчаслівым.**

На нядаўніх урачыстасцях з нагоды 71-й гадавіны Вялікай Перамогі паўсюдна ў Беларусі ўзгадвалі, колькі нашых продкаў загінула, каб нам свяціла сонца над мірным небам. А ў Міёрскі раён спецыяльна прыехаў у вёску Лявонпаль першы сакратар пасольства Казахстана ў Беларусі Булат Каткенаў з сям’ёй, каб аддаць даніну павагі загінуўшым і падзякаваць жывым героям. Падчас вайны ў гэтай мясцовасці жорсткія баі ля вёскі Слабада працягваліся нават да 13 ліпеня 1944 года, а ў адным Узмёнскім сельсавеце не вярнуліся з вайны 165 землякоў. Пры вызваленні раёна ад гітлераўскіх захопнікаў, як устанавілі краязнаўцы, загінуў 21 казах, а 11 з іх знайшлі вечны спакой тут пад мармуровымі плітамі. Адным з загінулых і пахаваных з’яўляецца дзед дыпламата, радавы пехацінец Касабай Каткенаў. Акрамя ўскладання вянкоў і кветак да брацкай магілы ля абеліска пасадзілі і Дрэва памяці, куды прывезлі жменькі зямлі з радзімы загінуўшых казахаў. Дарэчы, падчас святочных мерапрыемстваў у самім райцэнтры ўшанавалі памяць і знакамітага земляка, Героя Савецкага Саюза контр-адмірала Рыгора Тамко. Мясцовай сярэдняй школе № 3 урачыста прысвоілі імя праслаўленага падводніка, які першым правёў сваю 11-ю дывізію атамных падводных лодак пад глыбамі лёду Арктычнага акеана. У фае школы ў гонар потым начальніка Ленінградскага вышэйшага ваенна-марскога вучылішча падводнага плавання адкрылі спецыяльнае панно, прайшоў урок мужнасці.. Адна з самых прыгожых вуліц горада таксама носіць назву імя адмірала Тамко, на ёй устаноўлена мемарыяльная пліта-помнік.

## Полацкі раён

# Да бяды адзін крок

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ летась у Беларусі былі распрацаваны меры бяспекі пры эксплуатацыі розных надуўных атракцыёнаў і адказнасці іх уладальнікаў пры аказанні такіх паслуг.**

На такое ў краіне пайшлі пасля здарэння ў райцэнтры Горкі, дзе з-за моцнага парыву ветру пацярпела адразу 9 дзяцей, калі іх скінула з двух надуўных батутаў. Праўда, да суда тая справа не дайшла, хоць віна прадпрымальнікаў была следствам устаноўлена. Аднак і сёлета ў вельмі цёплы і сонечны выхадны майскі дзень ужо у Навапалацку атрымаў траўму і быў змешчаны ў бальніцу 4-гадовы хлопчык. Дзіця ў лічаныя імгненні апынулася пад надуўной горкай, якая раптоўна перакулілася з-за зноў вельмі моцнага парыву ветру. У адным з мікраёнаў нафтаграда здарэнне адбылося паблізу гандлёвага цэнтра “Задыяк”. Аператыўна супрацоўнікі Следчага камітэта выявілі, што канструкцыя, на якой адначасова магло знаходзіцца да 20 дзяцей, рухнула з-за абрыву стропальнай сістэмы. Надуўная горка была адразу канфіскавана для правядзення неабходных экспертызы. Дарэчы, яна практычна новая, была набыта напрыканцы мінулагодняй вясны і эксплуатавалася меней года. Але існуе правіла, што такія атракцыёны павінны кожны дзень правярацца на ўстойлівасць і на знос абсталявання. Добра яшчэ, што ў момант інцыдэнту на ёй скакаў толькі адзін хлопчык і, магчыма, што ў дадзеным выпадку прыродны фактар аказаўся мацнейшым за чалавечую пільнасць. Здарэнне вучыць, што пры няўстойлівым надвор’і ў далейшым працу такіх надуўных канструкцый лепш за ўсё прыпыняць.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 26.05.16 | | | | Пятніца 27.05.16 | | | | Субота 28.05.16 | | | | Нядзеля 29.05.16 | | | | Пан. 30.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +16 | +22 | +18 | +12 | +15 | +21 | +19 | +14 | +18 | +21 | +19 | +14 | +18 | +24 | +21 | +15 | +18 | +23 |
| Ціск | 741 | 743 | 744 | 745 | 746 | 749 | 749 | 750 | 750 | 752 | 751 | 750 | 750 | 751 | 751 | 750 | 750 | 751 | 750 |
| Вецер м/сек | 2 Ю | 3 З | 3 С-З | 2 С-З | 2 С-В | 2 С-В | 1 В | 4 В | 4 В | 4 В | 3 В | 5 В | 5 В | 3 В | 4 В | 6 В | 4 В | 5 В | 5 В |
| Вільготнасць | 92 | 88 | 48 | 71 | 89 | 71 | 56 | 71 | 85 | 72 | 60 | 61 | 90 | 78 | 48 | 68 | 94 | 75 | 60 |

## Аб самым надзённым

# ДЛЯ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСАЎ ЗНОЎ НАСТАЛА ПАРА ХВАЛЯВАННЯЎ, А З 2017 ГОДА ДЛЯ ІХ ЗМЕНЯЦЬ ПРАВІЛЫ ПРЫЁМУ Ў ВНУ І ССНУ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сёлета з-за эканамічнага крызісу, па дадзеных даследаванняў Нацыянальнага інстытута адукацыі, яшчэ болей, на 12 % зменшылася колькасць беларускіх старшакласнікаў, якія карысталіся дадатковымі паслугамі рэпетытараў, каб прайсці на прэстыжныя спецыяльнасці ў ВНУ.**

Спрадвек вякоў штогод напрыканцы вясны і ў пачатку лета ў кожнага маладога чалавека, яго бацькоў і блізкіх наступае хвалюючая пара выбару далейшага жыццёвага шляху. Пасля выпускных экзаменаў у школах краіны трэба выбраць, у якую навучальную ўстанову паступаць, як справіцца з выпрабаваннямі на цэнтралізаваным тэсціраванні, каб набраць як мага болей будучых прахадных балаў. Сёлета з-за эканамічнага крызісу, па дадзеных даследаванняў Нацыянальнага інстытута адукацыі, яшчэ болей, на 12 % зменшылася колькасць беларускіх старшакласнікаў, якія карысталіся дадатковымі паслугамі рэпетытараў, каб прайсці на прэстыжныя спецыяльнасці ў ВНУ.

Увогуле не кожная наша сям’я зараз можа дазволіць плаціць за такую падрыхтоўку дадатковыя грошы. Дадатковым навучаннем цяпер заняты толькі трэць будучых абітурыентаў. На нядаўняй нарадзе ў беларускай сталіцы А. Лукашэнка зноў даручыў правесці ўступную кампанію-2016 арганізавана і без збояў, забяспечыць сумленны парадак адбору і залічэння новых студэнтаў-першакурснікаў. Акрамя гэтага ў Беларусі паранейшаму працуюць у школах больш тысячы профільных класаў, дзе можна вывучаць асобныя прадметы на паглыбленым ўзроўні і мець трывалыя веды. Такой формай навучання ў краіне ахоплена 37 % класаў беларускіх школ.

Як стала вядома, з наступнага 2017 года ў нашай краіне будуць пэўныя змены ў правілах паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і крыху меней прэстыжныя ССНУ. Кіраўнік дзяржавы на прайшоўшым пасяджэнні ўзняў пытанне павелічэння набору студэнтаў на спецыяльнасці, найбольш запатрабаваныя для эканомікі і сацыяльнай сферы: “ мы будем всегда исходить из этой потребности по количественному и качественному составу наших абитуриентов”. Размовы аб спрашчэнні пры гэтым умоў паступлення не вядзецца, аднак можа быць уведзена субяседванне на шэраг важных прафесій, каб пераканацца ва ўзроўні інтэлекту і школьнай падрыхтоўкі, адкрыць дзверы ў ВНУ самым здольным і таленавітым маладым людзям.

На дзяржаўным узроўні былі падтрыманы некаторыя прапановы спецыялістаў галіны па ўдасканаленні ўступнай кампаніі. З наступнага года юнакам і дзяўчатам далі магчымасць прайсці ЦТ па чатырох прадметах, але пры паступленні ва ўніверсітэт альбо акадэмію можна прадставіць вынікі трох лепшых тэстаў. Дарэчы, сертыфікат аб праходжанні тэсціравання будзе сапраўдным на працягу двух гадоў, а не аднаго, як цяпер. Тыя, хто будзе паступаць у тэхнікумы і каледжы, адпаведна могуць здаваць ЦТ па трох прадметах, але ў прыёмную камісію прадстаўляць дакументы з лепшымі вынікамі па двух пры выбары паміж блізкімі спецыяльнасцямі.

Замест аднаго рэзервовага дня для здачы ЦТ у будучым будуць 3 для правядзення праверкі ўзроўню ведаў. Аднак у абавязковую норму пры здачы ЦТ і далейшым паступленні ў ВНУ і ССНУ застануцца вынікі тэстаў па профільных прадметах і па беларускай, рускай мовах. У краіне адчуваецца недахоп педагогаў і таму выпускнікі педагагічных класаў змогуць паступаць на такія спецыяльнасці без уступных выпрабаванняў з 8 баламі ў атэстатах па профільных прадметах, а па астатніх прадметах школьныя адзнакі павінны быць не ніжэй 7 балаў (апошняй нормы цяпер няма). Без уступных экзаменаў змогуць паступаць у ВНУ і пераможцы алімпіяд, але на самыя запатрабаваныя спецыяльнасці.

Іншыя наваўвядзенні закрануць тых, у каго будучая прафесія будзе звязана з пражываннем і працай у сельскай мясцовасці. Такая моладзь замест ЦТ можа выбраць унутраныя ўступныя экзамены ў ВНУ, прычым не толькі сельскагаспадарчага профілю, як цяпер. Ад абавязковай здачы ЦТ будуць вызваляцца і тыя, хто паступае на скарочаны тэрмін атрымання адукацыі. Вышэйшую адукацыю завочна на платнай аснове змогуць атрымоўваць усе жадаючыя, незалежна ад наяўнасці працоўнага стажу. А вось трэнерамі змогуць станавіцца толькі ўладальнікі спартыўных званняў пры прад’яўленні адпаведнай кваліфікацыйнай спартыўнай кніжкі. Таксама вырашана захаваць і пашырыць дзеянне аўтаматызаванай сістэмы залічэння студэнтаў. Яшчэ павялічаць мэтавы набор будучых медработнікаў, а вось пералік ільготных ваенных спецыяльнасцей будзе скарочаны.

Безумоўна, ва ўсім свеце зацікаўлены, каб мець як мага болей падрыхтаваных спецыялістаў для ўсіх сфер дзейнасці грамадства. Наша краіна таксама рухаецца ў патрэбным накірунку, стала ўдзельніцай Балонскага працэсу і мае нядрэнны патэнцыял для падрыхтоўкі патрэбных кадраў. Таму і ў далейшым патрэбна ўдасканальваць працэс развіцця агульнай і вышэйшай школы, прымяняючы лепшы сусветны вопыт у гэтай сферы. Дарэчы, яшчэ праз 2 гады ў 2018 годзе Беларусь упершыню далучыцца да Міжнароднай сістэмы ацэнкі якасці адукацыі PISA, паколькі належная якасць адукацыі можа забяспечваць і пэўны рост ВУП краіны.

## Дзень за днём

**Расходы дзяржбюджэту Беларусі на 2016 год плануюць скараціць на 7-8 %, сацсферу гэта не закране. А. Лукашэнка даручыў болей рыхтаваць у краіне IT-спецыялістаў. У сакавіку беларускі экспарт упаў яшчэ на 15,8 % да леташняга ўзроўню. У Беларусі выявілі 29 уладальнікаў афшорных кампаній за мяжой. "Газпрам" падаў іск у міжнародны арбітраж на беларускія газавыя службы. Камітэт дзяржкантролю выявіў 348 пустуючых катэджаў у аграгарадках, 150 з іх не забяспечваюць вяскоўцаў мінімальнымі зручнасцямі для жыцця. Беларуская чыгунка паабяцала аснасціць свае цягнікі стабільнай мабільнай сувяззю і Wi-Fi.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Услед за ЗША еўракамісар па энергетыцы М. Каньетэ выказаў занепакоенасць планамі РФ пракласці газаправод "Паўночны паток-2", ён нясе пагрозу энергабяспецы ЕС.

**Бразілія.** Верхняя палата парламента вырашыла прадоўжыць працэдуру імпічмента прэзідэнта Дзілмы Русеф, у гэтай дзяржаве палітычны крызіс працягваецца ўжо некалькі месяцаў.

**Сірыя.** Намеснік генсека ААН С. О'Брайен пацвердзіў, што авіяўдар урадавай авіяцыі па лагеру ўцекачоў будзе расцэньвацца, як ваеннае злачынства, а вінаватых чакае суд.

**Шатландыя.** На парламенцкіх выбарах упэўненую перамогу атрымала нацыяналістычная Нацыянальная партыя, якая з'яўляецца прыхільніцай аддзялення ад Англіі і членства ў ЕС

**Грэцыя.** Нягледзячы на масавыя пратэсты, парламент прыняў непапулярную пенсійную рэформу і павышэнне падаткаў для атрымання краінай міжнароднай фінансавай дапамогі.

**Мексіка.** Суд краіны дазволіў экстрадыцыю ў ЗША аднаго з самых небяспечных злачынцаў свету, наркабарона Х. Гусмана па мянушцы "Каратышка".

**Расія.** Вядомы гісторык А. Піянткоўскі заявіў, што ад Пуціна ўжо ідзе смурод палітычнай смерці, бо дыктатура ў РФ не ў стане перажыць яўныя геапалітычныя паражэнні.

**ЗША.** Запасы сырой нафты ў краіне ў маі перавысілі 550 млн. тон і пераўзышлі гістарычны рэкорд восені 1929 года, амерыканцы сталі буйнейшым у свеце экспарцёрам.

**Ірак.** Урад краіны адмовіўся замарозіць здабычу нафты, ваенныя ў горадзе Хіт знайшлі лабараторыю "Ісламскай дзяржавы" па вытворчасці хімічнай зброі і ўдушлівых газаў.

**Украіна.** Аўтар пасляховых рэформ у Польшчы Л. Бальцэровіч заявіў, што ў краіне пачынаецца рост эканомікі і ён прадоўжыцца, калі украінцы будуць працягваць рэформы.

**Расія.** Пасля няўдалага з Пуціным першага запуску ракеты з новага касмадрома "Усходні" неўзабаве страцілі сувязь са спадарожнікам, які вывелі пазней на арбіту.

**Літва.** У МЗС краіны ўручылі ноту пратэсту паслу Беларусі А. Каралю з нагоды магчымага інцыдэнту, абрушэння часткі канструкцыі будучага аднаго з будынкаў АЭС.

**Польшча.** Прэзідэнт А. Дуда падпісаў закон аб бясплатных лякарствах з 1 верасня для пенсіянераў, дасягнуўшых 75 гадоў, сем'ям з дзецьмі пайшлі даплаты па 120 еўра на дзіця.

**Расія.** Збіты малайзійскі Боінг, як заявіў на "Эхо Москвы" М. Ганапольскі, паставіў кропку ў лёсе гібрыднага рэжыму, будзе і міжнародны суд над прэстарэлым Пуціным.

**Польшча.** Інстытут нацыянальнай памяці вырашыў стварыць музей пад адкрытым небам савецкіх помнікаў – сімвалаў панавання СССР над палякамі пасля іх дэмантажу па краіне.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На маторным заводзе А. Лукашэнка паабяцаў, што ў найбліжэйшыя год-два Беларусь будзе мець ужо поўны камплект сваёй вытворчасці аўтамабіляў.

**Салігорск.** Спецыялісты "Беларуськалія" і БКК зноў правялі перамовы аб павелічэнні паставак калію ў ЗША, летась іх адгрузка вырасла ў 5 разоў пасля адмены санкцый.

**Магілёў.** Абласны Эканамічны суд прызнаў банкрутам неплацежаздольную швейную фабрыку "Веснянка", яна рэгулярна трапляла ў спісы даўжнікоў па зарплаце.

**Мінск.** А. Лукашэнка фактычна падтрымаў свайго калегу з Украіны П. Парашэнку і таксама выказаўся супраць манапалізацыі перамогі над фашызмам адной краінай – Расіяй.

**Касцюковічы.** Пасля журналісцкага расследвання "Нашай нівы" пра самадурства главы раёна міліцыя пачала праверку нядрэннай гаспадаркі, якую ўсяляк ён "прэсуе".

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч заявіў, што нельга называць стабільнай краіну, дзе цэны змяняюцца штотыдзень, усё больш відавочны крызіс створанай у нас сацыяльнай мадэлі.

**Смаргонь.** Кампанію "Кронаспам", вытворцу драўмільёнамі рублёў штрафу за пападанне ў раку Вілія хімічных стокаў з выпускнога калектара.

**Мінск.** Няпростая сітуацыя ў беларускай эканоміці, як прызнаў глава Нацбанка П. Калавур, прыводзіць да росту праблемных актываў у айчынных банках.

**Рэчыца.** Сваякам жыхара горада С. Іванова паведамілі аб ягоным расстрэле ў камеры смяротнікаў СІЗА № 1 за жорсткае забойства знаёмай дзяўчыны па прыгавору суда.

**Гродна.** Ля горада адкрылі пасля рэканструкцыі комплекс абаронных збудаванняў часоў Вялікай Айчыннай вайны, які назвалі "лініяй Карбышава".

**Дразды.** Былы 66-гадовы віцэ-прэм'ер А. Тозік пацвердзіў, што пабудаваў тут даволі сціплы катэдж, але не разумее тых, хто ганарыцца, што нічога не мае, пражыўшы жыццё.

**Мінск**. Следчы камітэт прад'явіў абвінавачванне намесніку міністра ЖКГ ва злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі, па гэтай справе праходзяць 6 чыноўнікаў.

**Ліда.** Кампанія "Лідскае піва" нечакана пачала рэбрэндынг сваёй прадукцыі, этыкеткі яго піва і рэкламная камунікацыя стануць беларускамоўнымі, у бел-чырвона-белых колерах.

**Вілейка.** Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп Т. Кандрусевіч у мясцовым касцёле Божай Міласэрнасці правёў бежмаванне адразу 120 вернікаў, наведаў храмы раёна.

**Мінск.** У сталіцы завяршылі будаўніцтва адной з буйнейшых ва Усходняй Еўропе Саборнай мячэці, у ёй змогуць маліцца адначасова звыш 1,5 тысячы мусульман.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Тлумачэнне Нацыянальнага банка: як будуць дэнамінаваныя ўклады на ашчадкніжках



■ finance.tut.by

**Нацбанк працягвае тлумачыць нюансы будучай дэнамінацыі. У прыватнасці, днямі на сайце рэгулятара з'явіўся ліст банкам аб тым, як трэба акругляць пасля 1 ліпеня сумы дэпазітаў на ашчадных кніжках, дэпазітных і ашчадных сертыфікатах.**

Раней Нацыянальны банк патлумачыў, што сума ўкладу (дэпазіту) з 1 ліпеня 2016 года будзе пералічана з улікам абранага маштабу дэнамінацыі - 01:10 000. Пры гэтым укладчыкам не трэба будзе ісці ў банк і прапісваць нейкія дадатковыя паперы. Такі ж прынцып будзе дзейнічаць і ў дачыненні да ашчадных кніжак, дэпазітных і ашчадных сертыфікатаў.

«Па выніках пераліку ажыццяўляецца акругленне атрыманых значэнняў да цэлай беларускай капейкі», – гаворыцца ў лісце Нацбанка.

У дачыненні да такога акруглення банк можа кіравацца наступнымі арыфметычнымі правіламі:

- калі дробавая частка капейкі складае менш за 0,5 капейкі, атрыманая сума памяншаецца да цэлай капейкі;
- калі дробавая частка капейкі складае 0,5 капейкі і больш, атрыманая сума павялічваецца да цэлай капейкі.

У выпадку звароту ўкладчыка ў банк за атрыманнем усёй сумы па дамове ўкладу (дэпазіту), аформленым ашчаднай кніжкай, ашчадным сертыфікатам, дэпазітным сертыфікатам, карэкціроўка сумы абавязацельства не патрабуецца.

«У выпадку звароту ўкладчыка ў банк за частковым атрыманнем альбо папаўненнем сумы па дамове ўкладу (дэпазіту), аформленым ашчаднай кніжкай, неабходна выканаць карэкціроўку сумы абавязацельства, названага ў ашчаднай кніжцы ў грашовых знаках узору 2000 года з улікам праведзенай дэнамінацыі, а таксама праставіць штамп або ўчыніць запіс «дэнамінаваныя», - удакладняецца ў лісце Нацбанка.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Ушачы.** Каля 3-х тысяч чалавек удзельнічалі ва ўрачыстым адкрыцці пасля рэканструкцыі мемарыяльнага комплексу "Прарыў" з удзелам главы вобласці М. Шарстнёва.

**Руба.** У гарпасёлку пачалі ўзводзіць новы падземны пешаходны пераход на аб'язной чыгрохалоснай дарозе вакол Віцебска, яе здача ў эксплуатацыю адбудзецца восенню 2017 года.

**Паставы.** Глава вобласці М. Шарстнёў вельмі быў задаволены знаёмствам з дзейнасцю і тэхналогіямі прадпрыемства ПМЦ, дзе хутка запусцяць новы завод паркетнай дошкі.

**Глыбокае.** Па дадзеных Белстата, раён стаў "лідарам" па запазычанасцях насельніцтву на 1 красавіка за закупленае малако ў суме 300,5 мільёна рублёў, доўг па вобласці быў 796,3 мільёна

**Полацк.** На баявое дзяжурства ў 377-м ракетным палку заступіў пасля капрамонту ў Расіі зенітна-ракетны комплекс С-300, тэрмін яго эксплуатацыі будзе яшчэ 15 гадоў.

**Талачын.** Эканамічны суд вобласці канфіскаваў у жыхара раёна яго аўтамабіль Dodge, кіроўца на ім уцякаў ад ДАІ і справакаваў стральбу па калёсах, атрымаў і буйны штраф.

**Віцебск.** Праз 3 гады Беларуская чыгунка з 14 чэрвеня зноў пачне з горада і Магілёва прамыя рэйсы праз Гомель на адпачынак да мора на курорты Краснадарскага краю.

**Бешанковічы.** Міліцыя затрымала 16-гадовага ўраджэнца раёна, які разам з аднакурснікам па вучобе ў Лепельскім прафліцэі абрабавалі ў масках днём адзін з магазінаў Лепеля.

**Верхнядзвінск.** На працягу дня воіны Полацкага пагранатрада знайшлі два схроны цыгарэт у лясах раёна і суседняй Браслаўшчыны, затым яшчэ 2 у цягніках на Латвію.

**Шаркоўшчына.** Праз дзесяцігоддзі пошукаў жыхарка Санкт-Пецярбурга Т. Кулішова адшукала і з унучкай наведала магілу свайго дзядзі, камандзіра танка, які загінуў у 1944 годзе.

**Браслаў.** Каля ста магутных матацыклаў байкераў мотаклуба "Псы дарог" з усіх куткоў Беларусі мотапрабегам па вуліцах горада адкрылі новы сезон і паехалі на Полацк.

**Мёры.** Капліцу св. Благавернага князя А. Неўскага ў раённым цэнтры ўпрыгожыла новая аднайменная ікона ў прыгожым металічным аздабленні, вырабленым у Полацку.

**Лепель.** У рамках акцыі "Марш паркаў-2016" работнікі Бярэзінскага біясфернага запаведніка запусцілі свой тэматычны інтэрнэт-флэшмоб адразу ў двух сацыяльных сетках.

**Глыбокае.** Суд раёна пакараў 2 гадамі турмы строгага рэжыму беспрацоўнага вяскоўца за крадзёж у свайго знаёмага з райцэнтра калекцыі старых манет і рэчаў.

**Докшыцы.** У рамках рэспубліканскай акцыі "Кветкі Вялікай Перамогі" ў гарпасёлку Бягомль пасадзілі яблыневы сад, да акцыі актыўна падключыліся вучні школы-інтэрната.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Быў адноўлены ў прыгажосці сваёй навізны!

■ Уладзімір Скрабатун

**Асоба святара колішняй беразвецкай царквы Аляксандра Вяраксіна вельмі не адназначная і супярэчлівая. Сябе ён лічыў беларусам, аднак быў арганізатарам чарнасоценнага руху на Глыбоччыне – з пачаткам смуты 1905 года выступіў арганізатарам Глыбоцкага аддзела Саюза Рускага Народа (СРН), у якім займаў пост старшыні.**

Сёння яго назвалі б адным з тыповых адэптаў так званага "рускага свету", за якімі стаяць інспіраваныя імі канфлікты, кшталту расійскай акупацыі Крыму і ўзброенага супрацьстаяння на Данеччыне і Луганшчыне.

Між тым а. Аляксандр Вяраксін, адзін з першых глыбоцкіх краязнаўцаў – у 1910 годзе напісаў кнігу (гістарычны нарыс) **"Березвечскій монастырь, Литовской епархіи Дисненскаго уѣзда"**.

Прыняў пакутніцкую смерць за Хрыста – у 1918-м быў павешаны бальшавікамі на варотах уласнага дома ў г. Чаркасы (Кіеўскай губерні).

Услаўлены Рускай Замежнай Царквой на Архірэйскім Саборы РПЦЗ у 1981-м. Вызначэннем Генеральнай пракуратуры Украіны ад 10 траўня 2006 года Аляксандр Вяраксін быў рэабілітаваны.



**Аляксандр Вяраксін, святар беразвецкай царквы, аўтар кнігі аб гісторыі беразвецкага манастыра, загадчык Беразвецкай другакласнай настаўніцкай жаночай школы.**

Аляксандр Вяраксін нарадзіўся 22 кастрычніка 1872 года. Скончыў Полацкую духоўную вучэльню і Віцебскую духоўную семінарыю (1894).

У 1896 годзе пасвечаны ў іерэя. Служыў у Дзісненскім, а затым Свянцянскім паветах, адначасова быўшы законавучыцелем народных вучэльняў і загадчыкам настаўніцкай школы.

У 1905 годзе, па прапанове архіяпіскапа Літоўскага і Віленскага Нікандра, перайшоў святаром у **Беразвецкі жаночы манастыр,** дзе таксама загадваў жаночай настаўніцкай школай. Дзякуючы свайму бездакорнаму служэнню, адукаванасці і асабістым дадатным якасцям ён карыстаўся вельмі вялікім аўтарытэтам у веруючых людзей і прыхільнасцю з боку епархіяльнага святарскага кіраўніцтва.

У 1907 годзе быў абраны ў члены III Дзяржаўнай думы *"ад рускага сельскага насельніцтва Віленскай губерні"*. Уваходзіў у фракцыю правых. Быў членам камісій: па мясцовым самакіраванні, па народнай адукацыі і распарадчай. Прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы законапраекта пра царкоўна-прыхадскія школы.

Атрымаў асаблівую вядомасць, калі аднойчы гучна назваў дэпутата трудавіка Караваева, які любіў падкрэсліваць, што ён сядзеў на катарзе за выгоду народа, і накіроўваўся да трыбуны – "Катаргай", чым выклікаў скандал у Думе. З-за любові думскіх лібералаў да парожніх гаворак выступаў з патрабаваннем скарачаць час спрэчак на пасяджэннях Думы.

Публікаваўся ў правых газетах "Земщина" і "Русское знамя". У 1910 годзе быў абраны кандыдатам у члены Галоўнай рады СРН, а затым – ганаровым членам СРН з правамі члена-заснавальніка.

Для нас, глыбачан, айцец Аляксандр Вяраксін, святар беразвецкай царквы, перадусім, цікавы як аўтар кнігі аб гісторыі беразвецкага манастыра і як загадчык Беразвецкай другакласнай настаўніцкай жаночай школы. Але ён і будучы дэпутатам Дзяржаўнай Думы, скарыстоўваў "службовае становішча" для прыцягнення грашовых сродкаў на аднаўленне беразвецкага манастыра.

Між тым, сама тэма аднаўлення беразвецкага манастыра ў кнізе Аляксандра Вяраксіна пададзеная як яскравы прыклад расійскага вялікадзяржаўнага імперскага шавінізму. Маўляў, бедныя і нясчасныя беларусы-уніяты, якія знаходзіліся пад прыгнётам палякаў і католікаў, толькі і чакалі, калі іх вызваляць вялікаросы і навернуць ізноў на праваслаўе. І вось, нарэшце, гэтыя цудоўныя часы надышлі...

Хлусня! Жылі тыя ўніяты шчасліва і аб гэтым ніколі не думалі і не гадалі, што іх трэба вызваляць ад кагосьці і далучаць да чагосьці. Ну, гэта так, як цяпер Данецк і Луганск "вызвалілі" ад неіснуючых там "бандэраўцаў"... Звычайная прапаганда!

Але, перадусім, не зважаючы на гэтыя акалічнасці, кніга А. Вяраксіна – цікавы дакумент аб гісторыі беразвецкага манастыра. І толькі з яе мы можам даведацца, як з руінаў і кучаў друзу, ізноў паўстаў з небыцця цудоўны беразвецкі храм і манастырскія карпусы.

Нагадаем, што ўніяцкая царква на Беларусі была скасаваная 12 лютага 1839 года на ўніяцкім саборы ў Полацку пад ціскам царскага ўраду быў падпісаны акт аб *"добраахвотным"* далучэнні ўніятаў да праваслаўнай царквы. Гэта значыць, што беразвецкі манастыр становіцца ўжо праваслаўным. Праваслаўны манастыр праіснаваў тут да 1874 года, калі ён быў скасаваны з-за нястачы сродкаў на яго ўтрыманне. У выніку беразвецкая царква была прыпісаная да глыбоцкага прыходу. Але і сродкаў на яе ўтрыманне ўжо не ставала.

Пачынаецца катастрафічны заняпад будынкаў, яны паступова ператвараюцца ў руіны... 26 гадоў пра беразвецкі манастыр ніхто не згадваў! 26 гадоў!!!

Гістарычны нарыс **"Березвечскій монастырь, Литовской епархіи Дисненскаго уѣзда"** - гэта аповяд аб гісторыі манастыра з часоў Корсакаў і да 1910 года: утварэнне, росквіт манастыра ва ўніяцкія часы, пераход у праваслаўе, закрыццё і пераўтварэнне ў руіны, і яго ўваскрошанне праз 26 гадоў.

Аляксандр Вяраксін пісаў: *"Здавалася, што пра манастыр усе забыліся, і што нават памяць пра яго знікне назаўжды. (...) Улетку 1900 года Высокаправялебны Ювяналій, архіяпіскап Літоўскі і Віленскі, аглядаючы некаторыя цэрквы Дзісненскага павета, адмыслова прыбыў у Беразвечча ў суправаджэнні князя Друцкога-Любецкага і святара Глыбоцкай царквы айца В. Канцэвіча, якія давалі пры аглядзе адпаведныя тлумачэнні.*

*Выгляд разбуранага пышнага некалі манастырскага храма і разваліны манастырскіх будынкаў на архіпастара зрабілі жахлівае ўражанне. Цяжка было бачыць гэту жудасную карціну разбурэння славутай калісьці абіцелі. (...)*

*Пераканаўшыся ў поўнай магчымасці аднавіць храм і абіцель, Высокаправялебны Ювяналій у тым жа 1900 годзе хадайнічае перад Святым Сінодам пра заснаванне ў Беразвеччы жаночага манастыра, з адкрыццём пры ім другакласнай настаўніцкай жаночай школы для выхавання ў ёй сялянскіх дзяцей. Хадайніцтва гэта было здаволена і вызначэннем Святога Сінода ад 31 студзеня 1901 года, пасля 26-гадовага перапынку, манастыр быў ізноў выкліканы да жыцця і дзейнасці"*.

Пры аднаўленні беразвецкай царквы былі ўжытыя найноўшыя тэхналогіі таго часу. Заміж цагляных скляпенняў храма, якія ўжо абваліліся, былі зробленыя бетонныя. Сродкі на аднаўленне храма і манастырскіх пабудоў, шляхам збору ахвяраванняў, праводзіліся ў буйных гарадах Расіі: Санкт-Пецярбургу і Маскве.

Але самае галоўнае – *"вонкавы выгляд храма быў узноўлены ў прыгажосці сваёй навізны, з захаваннем чарцяжоў і малюнкаў ва ўсёй іх дакладнасці"*.

Беразвецкая царква лічылася адным з выдатнейшых твораў *"віленскага барока"*, і адной з прыгажэйшых цэркваў не толькі Літвы (Беларусі), але і ўсёй Расейскай імперыі. Яна і сёння занесеная і ў замежныя падручнікі па гісторыі архітэктуры для студэнтаў ВНУ.

Шкада, што ў 1949 годзе тагачасныя прышлыя глыбоцкія ўлады не ацанілі подзвіг манашак Беразвечча па аднаўленні храма і манастырскіх пабудоў, не прызналі ацэнку каштоўнасці храма знаўцамі архітэктуры, а ўнеслі хадайніцтва перад полацкімі абласнымі ўладамі аб разборцы храма. Хадайніцтва было задаволенае...

"... Летом 1909 года наружный ремонт продолжался. При внимательном отношении к делу, под присмотром опытного мастера, наружный вид храма был восстановлен в красоте своей новизны, с сохранением чертежей и рисунков во всей их точности. Материал употреблялся хороший, все наружные работы производились на цементе (исключая кирпичной кладки), и потому ремонт вышел прочным, гарантированным на долгое время.

Слава и благодарение Господу, благословившему и помогшему воссоздать красоту и великолепие сего древнего храма, отныне служащего украшением нашего края, да будет воздана сугубая честь игумении Сергии, совершившей сей подвиг тяжелого труда и забот. Скажем русское спасибо и тем, кто участием, помощью, жертвами и властию содействовали сему важному и святому делу".

З кнігі А. Вяраксіна **"Березвечскій монастырь, Литовской епархіи Дисненскаго уѣзда"**.



Царква Пятра й Паўла ў Беразвеччы. Арыгінальны макет храма з кардону работы Юрыя Калбасіча.



СВИДѢТЕЛЬСТВО

Предъявительница сего Ольга Михайлова Игнатовичъ 17-ти лѣтъ отъ-роду, обучалась въ **Березвечской** второклассной учительской женской школѣ и при отличномъ поведеніи окончила въ ней полный курсъ наукъ, оказавъ слѣдующіе успѣхи въ предметахъ:

въ Законѣ Божіемъ хорошіе (4.)
„ Церковно-Славянскомъ яз. хорошие (4.)
„ Церковномъ пѣніи хорошие (4.)
„ Русскомъ яз. вполнѣ удовлетворительные (3½)
„ Отечественной исторіи хорошие (4.)
„ Географіи хорошие (4)
„ Физикѣ хорошие (4)
„ Ариѳметикѣ хорошие (4).
„ Геометрическомъ черченіи хорошие (4.)
„ Дидактикѣ хорошие (4)
„ Гигіенѣ хорошие (4.)
„ Чистописаніи хорошие (4.)
„ Рисованіи отличные (5)
„ Рукодѣліи отличные (5)
„ Сельскомъ хозяйствѣ хорошие (4)

На основаніи Высочайше утвержд. положенія 1-го Апрѣля 1902 года п. III-го, ст. 44, Совѣтъ **Березвечской** второклассной школы признаетъ означенную въ семъ свидѣтельствѣ Ольгу Игнатовичъ достойной званія учительницы школы грамоты.

Посадъ Березвечъ Мая 27 дня 1907 года.

Предсѣдательница Совѣта Игуменія Сергія
Завѣдующій школою Свящ. А. Вераксинъ
Старшая учительница [illegible]
учительница [illegible]
учительница Елизавета Колосова
Учительница рукодѣлія [illegible]
Учительница рисованія М. [illegible]
Дѣлопроизводитель Совѣта шк. Е. [illegible]

**Пасведчанне на імя Вольгі Ігнатовіч аб сканчэнні Беразвецкай другакласнай настаўніцкай жаночай школы ад 27 траўня 1907 года.**

**Унізе – вынятка з пасведчання (павялічана) з подпісам а. Аляксандра Вяраксіна.**



Предсѣдательница Совѣта Игуменія Сергія
Завѣдующій школою Свящ. А. Вераксинъ
Старшая учительница [illegible]
учительница [illegible]
учительница Елизавета Колосова

# Адрачэнне

**Вялікдзень заўсёды напаўняе сэрцы вернікаў-хрысціян асабліва радасным пачуццём перамогі святла над цемрай, жыцця над смерцю. Зноў і зноў мы перажываем усе падзеі, звязаныя з зямным жыццём Ісуса Хрыста, і вельмі цяжка – пакутніцкую смерць Збаўцы, якой папярэднічала спачатку ганьбаванне свайго куміра людскім натоўпам ва Іерусаліме, потым здрада вучня Іуды, нарэшце, адрачэнне любімага вучня Пятра ад свайго настаўніка.**



■ Людміла Ардынская,
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

Адрачэнне – гэта адказ, адмаўленне чалавека ад поглядаў, ідэалаў, рэлігійных перакананняў, ад родных і блізкіх людзей, сяброў, што ацэньваецца як здрада. Іншы раз яна пачынаецца з маленькага, здаецца, непрыкметнага ўчынку, які перарастае з цягам часу ўжо ў несумяшчальны з нормамі агульначалавечай маралі.

У каталіцкім нумары газеты "Каталіцкі веснік" чытачы пазнаёміліся з апавяданнем Зміцера Лупача "Пахвалёнка". Аўтар – журналіст прыватнай газеты "Вольнае Глыбокае" і тэхнічны рэдактар "Каталіцкага весніка". Надрукаванае апавяданне – дэбют Змітра-літаратара. Сюжэтная лінія нескладаная: новая ўлада стварае ў Заходняй Беларусі калгасы, людзей збіраюць на сход; гаспадары, якія маюць ва ўласнасці зямлю, у знак пратэсту ігнаруюць сход; адзін з іх – Ігналька выпраўляе замест сябе чатырнаццацігадовую дачку Марылю: маўляў, дзіця ў калгас не загоняць.

Мара беларускага селяніна пра ўласную зямлю была спрадвечнай. Імкненне набыць яе, "прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут" паказана ў паэме "Новая зямля" Якуба Коласа, у творах Кузьмы Чорнага ды іншых пісьменнікаў. Зямля, сродкі на куплю якой здабываліся цяжкай працай у Амерыцы, Францыі, перадавалася з пакалення ў пакаленне. Таму было вялікай трагедыяй для ўласніка, калі зямлю "абразалі пароўна вуглоў хаты" на хутарах, а яна ж была бацькоўскай спадчынай.

Дзяўчынка прыходзіць на сход, калі ён ужо распачаўся, і вітаецца з прысутнымі, як прынята ў асяроддзі знаёмых людзей, - "пахвалёнкай": "нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус". Іншых словаў прывітання яна, мабыць, і не ўжывала. Гэты момант з'яўляецца кульмінацыяй апавядання: хто і як адкажа ў прысутнасці новых людзей, начальнікаў з раёна, як яны адрэагуюць на прывітанне дзяўчынкі. Пасля невялікай паўзы, усяго дзвюх хвілінак зацягнуўшагася агульнага маўчання, Паўлюсь, якога ў грамадзе лічылі занадта вясёлым і, нават, легкадумным чалавекам, адказаў: "Навекі векув. Амэн".

Гром з яснага неба не грымнуў. Шваґра Паўлюся Мар'ян, якога лічылі набожным чалавекам, прыкладам рэлігійнай маралі, зразумеў, што ён павінен быў першым адказаць на "пахвалёнку". Маўчаннем ён адрокся ад таго, што звязвала яго з людзьмі, і гэтым, мабыць, страціў да сябе іх павагу і давер. Ён ужо не слухаў, аб чым гаварылі на сходзе. Калі вярнуўся дадому, разгарнуў Святое Пісанне на старонцы, дзе гаварылася пра адрачэнне Пятра ад Ісуса, і пакаяўся са слязьмі на вачах. Вось такая развязка гэтага павучальнага апавядання ў плане рэлігійнай і агульначалавечай маралі. Аўтар паказвае псіхалагічны стан чалавека, які ў новых грамадска-сацыяльных абставінах у прысутнасці яшчэ незразумелых ім людзей, вымушаны быць асцярожным, задумвацца, як паводзіць сябе, якой рэакцыі чакаць з іх боку на ўласныя словы, учынкі. Вось чаму Мар'ян змаладушнічаў.

Апавяданне "Пахвалёнка", у аснове якога ляжаць праўдзівыя падзеі, прымушае задумацца: ці не паўтараем мы ў жыцці сваімі ўчынкамі тое, што зрабіў апостал Пётр. Штосьці спрабуеш апраўдаць, на штосьці забыцца. І толькі шчырае пакаянне можа зрабіць лягчэйшым наш далейшы жыццёвы шлях. Дараванне прыйдзе, таму што Хрыстос дараваў Пятру і людзям, якія спачатку ўхвалялі яго і ўганароўвалі пальмовымі галінкамі, а потым прывялі свайго куміра на Галгофу, на ўкрыжаванне. І не толькі дараваў, але і збавіў усіх ад смерці сваім уваскрашэннем.

У гісторыі ёсць шмат прыкладаў адрачэння даволі знаных асобаў, але ў шмат разоў больш прыкладаў непахіснасці, нязломленасці веры і моцы чалавечага духу, пачынаючы з пабарнікаў за хрысціянскую веру, святароў, навукоўцаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў у розныя перыяды развіцця грамадства. Успомнім хоць бы словы італьянскага вучонага Джардана Бруна, спаленага на кастры ў часы інквізіцыі: "А яна (Зямля) усё-такі круціцца!" Жудасная смерць, але не адрачэнне ад сваёй думкі. Ці непрызнанне новай Ніханаўскай рэформы царквы ў Маскоўскім царстве і неадрачэнне ад старой веры людзей, якія жорстка караліся за гэта. Мастак Сурыкаў напісаў карціну "Баярыня Марозава": верніцу, якая не здрадзіла сваёй веры, вязуць у лядовую яму на пагібель.

А колькі людзей за свае цвёрдыя перакананні і неадрачэнне ад іх ішло ў турмы, высылкі, на шыбеніцы – прыклад змагання нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага.

Нядаўна пайшоў з жыцця "ў Нябесную Беларусь", як напісала газета "Наша слова", Ніл Гілевіч, апошні народны паэт Беларусі, асоба і творчасць якога з'яўляецца сімвалам служэння беларускасці, змагання за беларускую мову, ад якой ён не толькі не адрокся, але і стварыў грамадскае аб'яднанне таварыства беларускай мовы – ТВМ імя Францішка Скарыны. Гэтым ён аб'яднаў прыхільнікаў і абаронцаў роднай мовы, заснаваў газету "Наша слова", орган ТБМ. Сын і патрыёт сваёй Радзімы, ён быў непарыўна звязаны з лёсам свайго народа, жыў ягонымі думамі і спадзяваннямі, да апошняга заставаўся з тымі, адкуль ён выйшаў.

Адрачэнне і неадрачэнне, маладушша альбо непахіснасць і моц духу – толькі апошнія паняцці даюць падставу характарызаваць чалавека як асобу высокамаральную. Кожны з нас ад чаго-небудзь або ад кагосьці адрокся, мабыць, у жыцці. Адзін – у большай ступені, другі – у меншай. Як жыць з такім цяжарам, калі разумееш, што яго магло і не быць. Застаецца адно: пакаянне і надзея на дараванне.



## Пакаянне

Аднойчы Бог – так быць павінна –
Павёў мяне ў нялёгкі шлях.
Шаптаў Анёл: "Утаймуй гардыню,
Пакайся ў сваіх грахах".

Я, басаног, па той дарозе
Скрозь спатыкала камяні.
У вочы – пыл, сцякалі слёзы,
Ды не мае былі яны.

А тых людзей, хто побач плакаў,
Не бачыла раней іх я.
Адтуль мне Божая адзнака,
Бо іх суцешыць не змагла.

Ішла ажыннікам калючым,
Шыпы паранілі мяне.
Было камусьці так балюча,
Я не ўзяла той боль сабе.

Пасланы хлеб мне быў ад Бога –
Крумкач галодны адбіраў.
Мо калісь бедны ля парога,
Каля маіх дзвярэй стаяў?

Прайсці той шлях хутчэй жадала.
Маліцца, каяцца пайду.
У Бога веру ўмацавала
І шлях іспытаў я прайду.

*Людміла Ардынская*

# Як адпачываць у лесе і не заплаціць штраф

■ В.Е. Катовіч,
*ст. дзяржінспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Вясновае сонца прыгрэла мацней, і аматары шашлычка ўсё часцей сталі выязджаць у лес, каб адпачыць ад гарадской мітусні. Як зрабіць так, каб прыемнае баўленне часу не скончылася парушэннем і штрафам?**

На жаль, парушэнняў менш не становіцца. Гэта развядзенне вогнішчаў у забароненых месцах, выпальванне сухой расліннасці, несанкцыянаванае размяшчэнне адыходаў, пашкоджанне і знішчэнне насаджэнняў.

Для арганізацыі пікнікоў і развядзення вогнішчаў маюцца адмыслова абсталяваныя месцы кароткачасовага адпачынку. З кожным годам іх колькасць павялічваецца, пляцоўкі становяцца зручнейшымі. Звычайна ў альтанках можна схавацца ад дажджу, знайсці урну для смецця. Але культура паводзін адпачывальнікаў пакідае жадаць лепшага, падобныя месцы хутка прыходзяць у неналежны выгляд. Зразумела, што спыніцца там ужо не хочацца, таму шматлікія робяць прывал у лесе, на не прызначанай для гэтага тэрыторыі. У шматлікіх месцах адпачынку ўсталяваны інфармацыйныя знакі і аншлагі, якія змяшчаюць патрабаванні і забароны, што дзейнічаюць у такіх месцах.

Як сябе трэба паводзіць, выехаўшы на прыроду, каб адпачынак не пацягнуў за сабой выплату штрафу?

Галоўнае – не забываць, што дзейсныя нормы заканадаўства, усталёўваючы шэраг абавязкаў, прадугледжваюць і адказнасць за іх незахаванне. Таму пасля адпачынку неабходна пакінуць тэрыторыю ў чысціні і парадку.



Для распальвання вогнішча правільней усяго браць з сабой мангал, а таксама дровы ці вугаль. Калі па тых ці іншых прычынах такой магчымасці няма, трэба памятаць пра тое, што забараняецца разводзіць вогнішча на месцах з падсохлай травой, на ўчастках, пашкоджаных ветравалам і буравалам, пад кронамі дрэў, у іглічных маладняках. Таксама забараняецца ўжываць для распальвання лёгкаўзгаральныя і гаручыя вадкасці, піратэхнічныя вырабы і іншыя матэрыялы са светлавым эфектам, пакідаць без нагляду недагарэўшае вогнішча. Вогнішча павінна быць акружана паласой зямлі шырынёй не меней 0,5 м у пазбяганне загарання травы і размешчаных побач з агнём прадметаў.

Добра правесці час на пікніку за горадам без матэрыяльных страт на штрафы можна пры ўмове выканання ўсіх правіл і нормаў паводзін на прыродзе. Так што лавіце момант – атрымлівайце асалоду ад сонца, не забываючы прыгэтым пра адказнасць!

Аб усіх парушэннях можна паведаміць на тэлефон даверу 8-02156-2-86-70 кругласутачна, маб. Мтс: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# У сабакі ёсць такія якасці, якіх ніколі не будзе ў чалавека

## Аб выкарыстанні сабак на паляванні

**На паляванне многія паляўнічыя (пераважная большасць!) аддаюць перавагу выбірацца з сабакамі. Як мы ведаем, многія паляўнічыя трымаюць у сябе дома паляўнічых сабак. З імі і выбіраюцца пры кожным зручным выпадку на паляванне.**

■ **Валерый Катовіч,** *старэйшы дзяржаўны інспектар глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Існуюць пароды сабак, выведзеныя адмыслова для палявання – лягавыя, ганчакі, харты, лайкі, норныя сабакі і г.д. А некаторыя паляўнічыя сабак не маюць, і паляваць ім даводзіцца без іх. Узнікае пытанне, ці так ужо важны і карысны на паляванні сабака, каб яго дома ўтрымліваць? Бо памятаем, што трымаць сабаку – справа клапотная: яго выгульваць з самай раніцы прыходзіцца і навучаць.

Кожны паляўнічы вам адкажа на гэтае пытанне адназначна: "Так! Паляўнічаму абавязкова трэба завесці сабаку. Тое, якую дапамогу ён акажа паляўнічаму на паляванні, не ідзе ні ў якое параўнанне з клопатамі па яго ўтрыманні!" І паляўнічы будзе мець рацыю. Сабака – гэта нават не правая рука паляўнічага, а нашмат больш. Сабака, па сутнасці, сам "вядзе" паляванне: шукае дзічыну, падводзіць да яе паляўнічага, дае яму час прыгатавацца да стрэлу і падае яе. Робіць ільвіную долю працы. Вядома, можна абысціся на паляванні без сабакі. Але далёка не на кожных жывёл і не заўсёды.

У сабакі ёсць такія якасці, якіх ніколі не будзе ў чалавека.

Гэта надзвычайны нюх, чуццё. Дзякуючы нюху і мудрасці сабака выяўляе дзічыну: качак, кулікоў, бакасаў, перапёлак, дзікоў, казуль, ласёў.

Паляўнічы, вядома ж, і сам можа, абапіраючыся на свой багаты вопыт (калі ён у яго ёсць), адшукаць дзічыну. Напрыклад, адшукаць на вадаёмах качак або зрабіць засаду на дзіка і казулю. Але як быць, да прыкладу, з балотнай дзічынай? Гэтыя птушкі сядзяць вельмі моцна. Прыходзіцца ледзь не наступаць на іх, каб яны ўзляцелі. Паляўнічаму прыйдзецца пратаптаць кожны квадратны метр поля або балота? А так – сабака выручыць. А як быць, да прыкладу, з лісой, якая ў нары? На дапамогу прыйдуць норныя пароды.



На полі ж лягавыя сабакі кіламетры «пропахваюць» зігзагам і выяўляюць затаіўшыхся там перапёлак. Паляўнічаму іх шукаць не трэба – трэба проста сачыць за сабакамі. Калі собачка стаў у "стойку", трэба да яго падысці.

Выдатная якасць дрэсіраваных сабак – гэта тое, што яны прывучаныя да таго, каб не спудзіць дзічыну да прыходу паляўнічага. Напрыклад, вось як дзейнічаюць лягавыя, якія спецыялізуюцца па птушках. Заўважыўшы ў траве на полі дзічыну, яны не пабягуць да яе. Яны замруць на месцы ў спецыяльнай позе. Гэта так званая "стойка" сабакі. Там, куды накіраваны погляд сабакі, знаходзіцца дзічына. Сабака будзе так стаяць і не зварухнецца. Пакуль не рушыць услед каманда паляўнічага. А пакуль сабака "дзяжурыць", паляўнічы можа падысці да здабычы.

Іншыя пароды сабак дзейнічаюць інакш, але таксама падводзяць паляўнічага да здабычы. Ганчакі гоняць звера і заганяюць яго альбо ў нару, альбо выганяюць яго на паляўнічага. Лайкі брэшуць на звера і тым самым затрымліваюць яго, пакуль не падыдзе паляўнічы.

Калі б паляўнічы паляваў сам, без сабакі, гэтага часу ў яго не было б.

А чым яшчэ сабака дапамагае паляўнічаму – дык гэта тым, што падае яму здабыты трафей. Здабыў паляўнічы, да прыкладу, качку, а яна ўпала ў ваду пасярод возера, і як яе дастаць? Ці яшчэ горш – упала качка кудысьці ў нетры чароту. Гэта, дарэчы, сур'ёзная праблема: калі на качак паляваць без сабакі, некаторыя здабытыя качкі абавязкова будуць не знойдзеныя. Або, да прыкладу, як быць без сабакі на вечаровай цязе слонак? Здабылі вы слонку, а яна звалілася ў траву або хмызняк. Цемра вакол і дзе яе шукаць? А сабака за вас і знойдзе птушку.

Таксама лічым належным нагадаць паляўнічым аб тым, што для таго, каб выкарыстоўваць сабаку на паляванні, ён павінен быць зарэгістраваны ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

Паважаныя паляўнічыя, выконвайце правілы і ўдалага ўсім палявання!

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8 (02156) 2-86-70 або на мабільныя тэлефоны: МТС 8972302, МТС 890-55-28, МТС 249-45-49, МТС 645-66-78.**





**МНС інфармуе**
**на 24. 05.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 281;
Гібель людзей – 40, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 9;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# "У дарогі няма канікул!"



**Пад такім дэвізам пройдзе Адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху 27 траўня 2015 года на тэрыторыі ўсёй краіны, у тым ліку і нашага раёна.**

■ **М.Цынковіч,** *старэйшы інспектар ДПС АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

У гэты дзень праца Дзяржаўтаінспекцыі будзе накіравана на прафілактыку дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.

Паважаныя бацькі! Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, якія адбываюцца на нашых дарогах, будзьце самі дысцыплінаваныя і прывучайце да гэтага дзяцей. Кожны раз, калі Ваша дзіця выходзіць з кватэры, не паленуйцеся нагадаць яму няхітрыя правілы паводзін на вуліцы! Памятаеце, што нават адзін няправільны крок дзіцяці на праезнай частцы дарогі можа прывесці да няшчасця.

Паважаныя вадзіцелі! Ад Вас патрабуецца адмысловая асцярожнасць пры праездзе міма дзіцячых пляцовак, школ (у летні час у многіх школах працуюць дзіцячыя аздараўленчыя лагеры), прыпынкаў грамадскага транспарту і ўчасткаў дарог, дзе абмежаваная бачнасць. Клопат аб дзецях – наша агульная справа.

Мы звяртаемся да Вас з просьбай: убачыўшы дзяцей, якія гуляюць на праезнай частцы дарогі ці каля яе, не заставайцеся абыякавымі, зрабіце ім заўвагу і пракантралюйце, каб яны пакінулі праезную частку.

Вадзіцелям з мэтай прыцягнення ўвагі дзяцей на транспартны сродак, які рухаецца, патрэбна абавязкова ўключаць бліжняе святло фар.

